НАШ Магілёў

Папярэдні лагатып газеты

**Шаноўныя магілёўцы!**

**Маем гонар паведаміць Вам, што незалежная газета «Наш Магілёў» аднаўляе свой выхад.**

Нашая мэта не змянілася. Мы намераны, як мага болей аб'ектыўна асвятляць падзеі Горада, не аддаючы перавагі ані Ўладзе, ані нейкай палітычнай сіле. Нажаль, дабіцца каментароў ад прадстаўнікоў улады для незалежнага друку не заўсёды проста. Даруйце, калі мы не здольны будзем агучыць пазіцыю кіраўніцтва Горада іх жа словамі. Але, думаем, што пазіцыі нашага кіраўніцтва і без гэтага зразумелыя па таму стану, у якім знаходзіцца нашае грамадства і па водгуках чыноўнікаў у дзяржаўнай прэсе.

**Тэма нумару: Выбары: як праходзілі, што чакалі і што зменіцца**


# Наш Магілёў

Грамадска-палітычная незалежная газета горада

**№ 39, красавік 2010 года**


# РЕЗУЛЬТАТЫ ВЫБОРОВ: ДОВЕРЯЙ, НО ПРОВЕРЯЙ

*Витольд НЕВРИДА*

**Общественный активист Алексей Павловский в очередной раз не стал депутатом. Но как и прежде он не поверил результатам выборов и решил проверить достоверность их результатов. На этот раз Алексей баллотировался одновременно в городской и областной Советы депутатов по - Заводскому избирательному округу №3 и Казимировскому избирательному округу №32.**







**Кандыдат Паўлоўскі падводзіць вынікі «выбараў» разам са сваімі выбаршчыкамі**

Официальные результаты голосования в городской Совет депутатов по Заводскому избирательному округу № 3 при общем числе избирателей 6796 следующие:

Явка в день выборов составила 79%, за Алексея Павловского проголосовала 1637 человек, за его конкурента, главного инженера и первого заместителя директора ОАО "Могилевский завод "Электродвигатель" Александра Ногтича 3327 человек, против всех 224, количество недействительных бюллетеней 199.

Имея эти результаты голосования, собравшись с духом и прихватив автора этой статьи в качестве журналиста и свидетеля мы отправились в район завода "Техноприбор", где живёт Алексей Павловский и где размещены избирательные участки для голосования, дабы провести небольшой социологический опрос жителей нескольких домов, да и случайно прогуливающихся жителей района.

Алексей рассказал, что данную форму проверки результатов выборов он опробовал ещё в 2008 году.

"Первый раз я проверил результаты выборов в 2008 году, когда баллотировался в депутаты Палаты Представителей Национального Собрания Республики Беларусь, - говорит Алексей Павловский, - тогда я также поставил под сомнение результаты выборов и на территории одного из избирательных участков собрал подписи людей, которые отдали свои голоса за меня. В результате таких людей набралось больше, чем было указано в итоговом протоколе голосования. Все эти подписи я передал в Центризберком, где его председатель Лидия Ермошина ответила мне, что у нас всё решается на избирательных участках, а не по принципу что люди скажут.

В общежитии, что по ул. Гришина, 116 голоса распределились следующим образом: не ходило голосовать 15 человек, "против всех" - 6, "за" Ногтича - 2, за Павловского - 14.

В общежитии по ул. Гришина, 102 голоса распределились следующим образом: не ходило голосовать 7 человек, "против всех" - 1, "за" Ногтича - 1, "за" Павловского - 11.

Из случайным образом опрошенных жителей микрорайона: не ходило голосовать 4 человек, "против всех" - 2, "за" Ногтича - 1, "за" Павловского - 14.

В результате опроса было опрошено 78 человек. Общий результат опроса такой: не ходило голосовать - 26 человек, "против всех" - 9, "за" Ногтича - 4, за Павловского - 39. Как-то это совсем не вяжется ни с результатами официальной явки, ни с победой его конкурента Александра Ногтича, так как симпатии среди опрошенных были явно на стороне Алексея Павловского приблизительно в 10 раз большие.

"Вот эти результаты социологического опроса я хотел показать жителям своего района, - говорит Алексей Павловский, - дабы они знали, что депутатов у нас не выбирают, а назначают и выборы являются не чем другим как избирательным фарсом. Мы специально не пошли в дом, в котором я вместе со своей семьёй живу, чтобы не показывать за кого голосовали мои соседи, так как все они будут на моей стороне, а выбрали нейтральные дома".

В общежитиях Алексея встречали как хорошего знакомого и на вопрос за кого голосовали из тех кто ходил на голосование отвечали в своём большинстве, что за Павловского, а когда узнавали самого кандидата в депутаты, то не могли скрыть своей улыбки и разочарования в результатах выборов.

"Я голосовал за вас, - говорит парень, - а вас не выбрали? "

Отдыхающие на скамейки мужики также высказали поддержку Алексею.

"Я тожэ галасовал за цябя, - говорит один из мужчин, - я ведь тоже страицель, таму и поддзержал цябя. Тут усе голосовали за цябя". С этим аргументом согласились и двое других сидящих на скамейке мужчин.

Ещё одна группа сидящих на лавочке мужчин также узнала кандидата в депутаты и согласилась с тем, что результаты выборов фальсифицированы.

"Я голосовал за Павловского, - говорит мужчина, - так как знаю, что он не бросает свои слова на ветер. Сказал, что решит вопрос с освещением - сделал. Занялся вопросом создания нового автобусного маршрута - в итоге у нас есть маршрут автобуса №35. У него слова не расходятся с делом"

Случайно вышедший выкидывать мусор житель этого подъезда сказал, что голосовал за Ногтича, но таких как он набралось всего 4 человека.

Сам кандидат в депутаты удовлетворён результатами социологического опроса.

"Я в очередной раз убедился и стараюсь убедить в этом остальных, что выборы у нас не демократические, - отмечает Алексей Павловский, - депутатами назначают людей оторванных от народа. В свою очередь, я как обещал помогать решать разные вопросы жителей своего района, так и буду этим заниматься дальше. Я буду помогать людям, так как наша власть лживая и трусливая".

К заслугам общественного активиста можно отнести создание нового автобусного маршрута №35, решение вопроса с освещением тёмной части района, асфальтирование дорожек на школьном стадионе, инициативу по строительству моста, который бы связал микрорайон "Техноприбор" с городом (инициатива поддержана и строительства моста начнётся в течение ближайших двух лет), открытие новых магазинов, аптек, ремонт дорог, ремонт ступенек в общежитии, строительство пандусов и многое-многое другое.

**Тэлефон Народнага дэпутата Аляксея Паўлоўскага:**
**+ 375 44 473 61 63**
**Звяртайцесь да таго, каму давяраеце!**
.. па любых пытаннях



**Сутыкнуліся з праблемай і не ведаеце да каго звярнуцца? Пішыце нам - мы паспрабуем дапамагчы Вам!**


Магілёў, вул. Ленінская, 29, оф. 315,
e-mail: mahilou@tut.by

# СКАНДАЛЬНЫ "ПРАКОЛ" МАГІЛЁЎСКАЙ ВЕРТЫКАЛІ




*"Праваабаронцы за свабодныя выбары"*

**Тое, што вынікі выбараў у Беларусі загадзя ўзгодненыя і вядомыя вызначанаму колу ўладных асобаў - гаворыцца не першы год. Тое, што падрыхтоўка выбараў у нас завершана яшчэ да пачатку выбарчай кампаніі - таксама не сакрэт. Але тое, каб пра гэта афіцыйна паведамлялася - такое сустрэлася ўпершыню.**

Пачнём з пачатку. 28 снежня 2009 года на афіцыйным сайце Магілёўскага аблвыканкама з'явілася інфармацыя "У вобласці ўтвораны 58 выбарчых акругаў па выбарах дэпутатаў Магілёўскага абласнога Савета дэпутатаў 26 склікання" (http://region.mogilev.by/ru/node/9180). У інфармацыі акрамя таго, што створаны акругі, гаворыцца і пра тое, што "старшынёй абласной выбарчай камісіі абраны начальнік Галоўнага статыстычнага ўпраўлення Магілёўскай вобласці Валерый Берастаў, намеснікам старшыні - дацэнт УА "Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт харчавання" Уладзімір Беланогаў". І ўсё гэта паведамляе сакратар Магілёўскай абласной выбарчай камісіі Людміла Макаранка.

Адразу нічога не разумееш, а можа проста не верыцца ў напісанае. Бо толькі праз месяц, 18 студзеня 2010 года, прэзідэнт выдасць указ пра прызначэнне выбараў, а Цэнтральная камісія толькі 21 студзеня зацвердзіць і апублікуе Каляндарны план арганізацыйных мерапрыемстваў правядзення выбараў, дзе чорным па белым напісана, што вылучэнне прадстаўнікоў у склад абласных і тэрытарыяльных камісій праводзіцца да 26 студзеня, затым на працягу трох дзён камісіі фармуюцца, а яшчэ на працягу наступных трох дзён імі ўтвараюцца выбарчыя акругі. І ўсё гэта павінна адбывацца ў 2010 годзе!

Фантастыка, але магілёўскія ўлады, якія задумалі выбары па сваім графіку і разуменню, самі сябе і выдалі, змясціўшы на сваім сайце інфармацыю, якую яны павінны былі прытрымаць на месяц, а потым толькі з выглядам праведнікаў змясціць у сябе на сайце і наогул апублікаваць для электарата. Тады б усё прайшло як па пісаным, але чамусьці адбыўся збой - ці то па дурасці і непрафесіяналізму, ці то да Каляд аў і Новага году рыхтаваліся і прагледзелі.

А можа гэта інтэрнетаўскія штучкі? Бо можна змясціць інфармацыю на леташнюю дату - гэта ведае хоць трохі знаёмы з гэтай сістэмай чалавек. Можна, вядома. Але магілёўскія праваабаронцы, улічваючы гэты факт, і звярнуліся за растлумачэннямі ў Магілёўскую абласную камісію. І адтуль яны атрымалі неверагодны адказ за подпісам намесніка старшыні абласной камісіі. Ён паведаміў, што (цытуем) "Магілёўская абласная выбарчая камісія была ўтворана ва ўстаноўленым парадку 27 СНЕЖНЯ 2010 года. Адпаведная інфармацыя пра гэта, а таксама пра першае арганізацыйнае паседжанне камісіі была змешчана на сайце Магілёўскага аблвыканкама 28 СНЕЖНЯ 2010 года". Вось ужо можна і мазгі звярнуць з такімі штучкамі: аказваецца, камісія была створана ў снежні, які яшчэ наступіць толькі праз 9 месяцаў. Хлусіць навучыліся, але яшчэ, відаць, не набылі ў гэтым прафесійнай "элегантнасці".

І што ўсё гэта значыць? А тое, што выбары ў Магілёўскі абласны Савет павінны быць адменены, а выбарчая кампанія павінна быць пачата спачатку - і праведзена не па паняццях магілёўскіх вертыкальшчыкаў, а па законе.

А яшчэ хацелася б верыць, што такое грубейшае парушэнне выбарчага закона зацікавіць органы пракуратуры, і ў іх хопіць смеласці і павагі да закона, каб прыняць адэкватныя і зноў-ткі законныя меры ў адносінах да такіх "арганізатараў выбараў". Яшчэ хацелася б параіць супрацоўнікам пракуратуры пагутарыць з сябрам Магілёўскай абласной камісіі ад ЛДПБ, які ў неафіцыйнай размове пацвердзіў, што ў камісію ён увайшоў яшчэ ў канцы мінулага года (што цяпер ён скажа - прадказальна, але сумленне яму суддзя).

Верагодна, пасля з'яўлення гэтай інфармацыі і яе распаўсюду ў бліжэйшыя гадзіны скандальнае паведамленне пра так груба пракалоўшыхся вертыкальшчыкаў будзе знята з сайта Магілёўскага выканкама. Для гэтага выпадку мы адмыслова падрыхтавалі карцінкі, якія пакуль яшчэ адлюстроўваюць рэальную карціну правядзення выбараў.

## Магілёў: Кандыдат застаў участковую камісію за распіццём спіртных напояў

*"Праваабаронцы за свабодныя выбары"*

**Кандыдат у дэпутаты Аляксей Паўлоўскі застаў сяброў участковай камісіі №53 Завадской выбарчай акругі №3 па выбарах у гарадскі Савет дэпутатаў за распіццём спіртных напояў. Гэта адбылося пры абыходзе выбарчых ўчастковых камісій, якія размешчаны на акрузе.**

Аляксей Паўлоўскі распавядае: "Калі я ўвайшоў у будынак дзіцячай юнацкай школы алімпійскага рэзерва, дзе размешчана ўчастковая выбарчая камісія №53, то вахцёрка мяне не прапусціла, сказала пачакаць, а сама хуценька пайшла ў памяшканне камісіі. Я ціхенька пайшоў за ёй, каб даznацца, чаму яна так сябе паводзіць. Калі я ўвайшоў у памяшканне ўчастковай выбарчай камісіі, то там нікога не было. На стале была раскладзена закуска, стаяла недапітая гарэлка. Вахцёрка паспела папярэдзіць сяброў камісіі аб маім прыходзе і тыя апаратыўна вымушаны былі пакінуць памяшканне праз другія дзверы".

Аляксей Паўлоўскі адзначае, што на мінулых парламенцкіх выбарах ён такасама застаў гэтую камісію за распіццём спіртных напояў. "Тады я выклікаў супрацоўнікаў пракуратуры, каб яны зафіксавалі гэты факт, але ў судзе было немагчыма гэта даказаць, і ў выніку яны засталіся беспакаранымі. Гэтым разам я не стаў гэтага рабіць, бо проста не было фотаапарата, каб сфатаграфаваць тое, што адбывалася ў памяшканні ўчастковай выбарчай камісіі".



Аляксей Паўлоўскі

## Найноўшае ў прычынах парушэнняў выбарчага закону ў Магілёве: хакеры

*"Праваабронцы за свабодныя выбары"*

**Няправільная дата правядзення першага пасяджэння абласной выбарчай камісіі на афіцыйным сайце Магілёўскага аблвыканкама магла з'явіцца з-за тэхнічнага збою альбо несанкцыянаванага знешняга ўздзеяння (хакернай атакі).**

Па версіі Магілёўскай абласной камісіі, хакеры "атакавалі" сайт аблвыканкама і збілі дату правядзення першага пасяджэння камісіі. Такі адказ атрымаў праваабаронца Барыс Бухель за подпісам старшыні абласной выбарчай камісіі Валеры Берастава.

Нагадаем, што праваабаронцы скардзіліся з нагоды фарміравання Магілёўскай абласной выбарчай камісіі амаль за месяц да абвяшчэння даты выбараў. Адпаведная інфармацыя пра гэта была размешчана на афіцыйным сайце аблвыканкама ў раздзеле "Выбары" 28 снежня 2009 г.

## МЫ ТОЖЕ СМОТРИМ СЕРИАЛЫ!

*Андрей ВОЛКОВ*

**Предлагаем Вашему вниманию заголовки статей из государственных газет, статей, в которых, так или иначе, поднималась тема выборов.**

Эти статьи были опубликованы в газетах "Вестник Могилёва". "Могилёвские Ведомости" и "Могилёвская правда". Подборка сделана по каждой газете в хронологическом порядке, за период избирательной кампании по выборам в местные советы.

### "Веснік Магілёва"

"Что волнует людей", "О выборах, коррупции, "хрущевках" и дорогах", "Началось досрочное голосование", "В атмосфере праздника", "Могилев проголосовал ЗА"

### "Магілёўскія ведамасці"

"Выборы назначены на апрель", "Продуманно и взвешенно", "Персонально и единогласно", "Живой разговор с организаторами выборов", "Главное политическое событие", "Дежурство на избирательных участках", "Досрочное голосование с любым документом, удостоверяющим личность", "Старт досрочного голосования", "Досрочное голосование: 4% в первый день", "Воспользовались правом досрочного голосования", "Депутатский корпус сформирован"

### "Могилёвская правда"

"МЫ ТОЖЕ СМОТРИМ СЕРИАЛЫ!", ""ДЕТИ" ВИНОКУРА", "ГЛАВНОЕ КАЧЕСТВО ДЕПУТАТА", "Новости региона / Выборы состоялись"

# МАГІЛЁЎСКІ МАРАФОН: ВЫБАРЫ, КАНДЫДАТЫ, ПАРУШЭННІ

*Ігар БАРЫСАЎ*

**Выбары ў мясцовыя Саветы пачаліся амаль за дзевяць месяцаў да скапчэння паўнамоцтваў папярэдняга Савета дэпутатаў, які быў абраны 14 студзеня 2007 года. Гэтым разам выбары мусілі адбыцца 25 красавіка 2010 года. Калі падыйсці да пытання тэрмінаў правядзення выбараў, то ў дадзеным выпадку ўсё лагічна - тэрмін паўнамоцтваў мясцовых Саветаў быў скарочаны з-за таго, што па тэрмінах адбывалася накладка з прэзідэнцкімі выбарамі і каб іх развесці неабходна было прадпрымаць нейкія дзеянні.**

## Фарміраванне тэрытарыяльных выбарчых камісій

Магілёўская вертыкаль пракалолася яшчэ да пачатку правядзення выбараў. Справа ў тым, што інфармацыя аб утварэнні Магілёўскай абласной выбарчай камісіі была размешчана амаль за месяц да абвяшчэння даты выбараў на афіцыйным сайце аблвыканкама. З гэтай нагоды праваабаронцы пісалі скаргі і атрымалі адказ аб тым, што падчас размяшчэння інфармацыіі на сайце ўзнікла тэхнічная памылка, а ўтварэнне Магілёўскай абласной выбарчай камісіі адбылося паводле плана 27 студзеня 2010 года. У іншым адказе абласная выбарчая камісія вінавацiла ва ўсім хакераў, якія нанеслі збой працы сайта.

З гэтай нагоды праваабаронца Барыс Бухель адзначыў, што пра тэхнічную памылку размова не можа ісці, а з'яўляецца ўсё гэта ні чым іншым як звычайнай фальсіфікацыяй, нахабнай бессаромнай хлуснёй і пра якую тэхнічную памылку можна казаць, калі звесткі былі надрукаваны на афіцыйным сайце за месяц, а ў прыватнай размове адзін з членаў гэтай камісіі пацвердзіў факт яе ўтварэння ў снежні 2009 года?

Як і чакалася ў склад абласной выбарчай камісіі ніхто з прадстаўнікоў дэмакратычных сілаў не патрапіў.

З 25 пададзеных заяваў на ўваходжанне ў склад камісіі 13 было задаволена. Ад грамадскіх арганізацый і палітычных партый у склад камісіі увайшло пяць чалавек (па аднаму ад БРСМ, прафсаюза дзяржаўных устаноў, ЛДП, КПБ і РГА "Белая Русь"). Астатнія былі вылучаны шляхам збору подпісаў і ад працоўных калектываў.

Прафесару Валеру Беразіенка, які вылучаўся ад Беларускай партыі левых "Справядлівы свет" са словаў начальніка ўправы арганізацыйна-кадравай працы Аляксандара Сілаева, было адмоўлена з-за ўзросту - яму 71 год.

Кандыдату эканамічных навук Пятру Мігурскаму было адмоўлена з-за яго дэмарша ў мінулы раз, калі ён быў вылучаны ў склад акруговай камісіі падчас выбараў у Палату Прадстаўнікоў.

Пятром Мігурскім былі выяўлены факты фальсіфікацыі выніковых пратаколаў у дзвух участковых камісіях Шклоўскага раёну і ў знак пратэста ён выйшаў са складу тамтэйшай акруговай камісіі і паведаміў пра выяўленыя факты сродкам масавай інфармацыі.

## Стварэнне ініцыятыўных груп, збор подпісаў і рэгістрацыя ў якасці кандыдатаў у дэпутаты

У Магілёўскай вобласці прадстаўнікі дэмакратычных сілаў вылучылі 83 чалавекі. Ад аргкамітэта партыі"Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя" - 31, БНФ - 16 , АГП - 7, БСДП - 6, аргкамітэта партыі "Надзея"-1, Беларускай партыяй левых "Справядлівы свет" - 6, аргкамітэта ПСП-8, аргкамітэта БСДП (НГ) - 2 , прафсаюза РЭП - 9, Свабоднага прафсаюза Беларускага - 5".

Падчас гэтага этапу выбарчай кампаніі некаторыя члены ініцыятыўных груп падвергліся ціску. Пра гэта заявіў каардынатар па выбарчай кампаніі Магілёўскай абласной кааліцыі дэмакратычных сілаў Юрый Новікаў.

Так у Кіраўску кандыдата ў кандыдаты ў дэпутаты прадпрымальніка Вячаслава Шэлега выклікалі ў райвыканкам і прыгразілі ягонаму бізнесу у тым выпадку, калі ён не адмовіцца ад ініцыятывы балатавацца ў дэпутаты, а членаў ягонай ініцыятыўнай групы прывезлі ў райвыканкам і прымусілі пад дыктоўку пісаць заяву аб выхадзе з ягонай ініцыятыўнай групы. У выніку дзве жанчыны выйшлі з яе, бо спужаліся згубіць свае месцы працы - адна з іх працуе медсястрой, другая санітаркай у мясцовым фельдшарска-акушэрскім пункце.

Алесю Анісімаву з Магілёва, з арганізацыі БНФ, патэлефанавалі і папярэдзілі, што калі той не адмовіцца ад сваёй ініцыятывы балатавацца ў дэпутаты - яго забяруць у войска. Хлопец не звярнуў на гэта ўвагі і працягнуў ўдзел у выбарчай кампаніі.

На загадчыцу клуба з вёскі Сяргеевічы Наталлю Гарыст націснула яе начальства, паставіўшы ёй выбар - балатавацца ў дэпутаты, альбо застацца без працы, пасля чаго жанчына адмовілася ад удзелу ў выбарчай кампаніі.

У выніку этап рэгістрацыі прайшло па Магілёву 27 дэмакратаў, па вобласці - 37. Усяго ў горадзе вылучалася 108 чалавек на 40 дэпутацкіх месцаў і гэта быў самы высокі конкурс па ўсёй краіне.

## Агітацыя

Для агітацыі ў Магілёве першапачаткова было вызначана адно месца і то з недакладнасцю. У газеце "Веснік Магілёва", на сайце гарвыканкама і ў адказах на лісты пазначалася пляцоўка для правядзенння масавых мерапрыемстваў па-за межамі памяшканняў па адрасу Чалюскінцаў, 64. Гэта звычайны чатырохпавярховы дом, да тарца якога прымыкае гарадскі цэнтр рытуальных паслуг. Пасля доўгай перапіскі праваабаронцаў з гарадской выбарчай камісііяй былі ўнесены змены і замест аднаго месца для правядзеня масавых мерапрыемстваў было зроблена тры. Да пляцоўкі па адрасу Чалюскінцаў, 64 А дадаліся пляцоўкі каля палаца культуры чыгуначнікаў па вул. Першамайская, 117 і палацу культуры аўтазавода імя Кірава, па вул. Аўтазаводскай, 1. Але ніхто з кандыдатаў у дэпутаты не скарыстаўся гэтымі месцамі.

Месцы для правядзення сустрэч у памяшканнях з кандыдатамі ў дэпутаты не адпавядалі патрабаванням выбарчай кампаніі. Не было такога, каб на кожнай выбарчай акрузе было месца для сустрэчы з выбаршчыкамі. Каб правесці сустрэчу з выбаршчыкамі трэба было ехаць у памяшканне ў іншы канец горада і запрашаць у яго выбаршчыкаў. На гэты крок таксама ніхто не адважыўся. Тым не менш праўладныя кандыдаты ў дэпутаты не грэбалі выкарыстоўваць адміністрацыйны рэсурс і праводзілі сустрэчы з працоўнымі калектывамі ў працоўны час. Калі ж кандыдат у дэпутаты Аляксей Паўлоўскі папрасіў праз заяву сваю акруговую выбарчую камісію, каб і яго запрашалі на такія мерапрыемствы, каб ён мог выступіць перад сваімі выбаршчыкамі пасля праўладнага кандыдата, то яму было адмоўлена і сказана, што яго апанент спадар Малашка праводзіць сустрэчы па адмысловаму плану.

Акрамя гэтага праўладныя кандыдаты ў дэпутаты не прамінулі выкарыстоўваць адміністрацыйны рэсурс. Яны выступалі як галоўныя героі ў разнастайных інтэрвью ў газеце "Веснік Магілёва", але дэлікатна абыходзілі пытанне выбараў. Дастаткова прыгадаць спадароў Міхеенку, Дзенгалёва і іншых.



**Юрый Новікаў, каардынатар па выбарчай кампаніі Магілёўскай абласной кааліцыі дэмакратычных сілаў**



**Барыс Бухель, праваабаронца**

## Выбары

Датэрміновае галасаванне ў інтэрнатах зноўку праходзіла пад прымусам. Былі зафіксаваны выпадкі прымусовага загону на выбарчыя ўчасткі ў інтэрнатах РУП "Хімвалакно".

На некаторых участках пратаколы з вынікамі датэрміновага галасавання не вывешваліся, альбо вывешваліся ў малалюдных месцах.

Каардынатар па выбарчай кампаніі Магілёўскай абласной кааліцыі дэмакратычных сілаў адзначае, што афіцыйная яўка не адпавядае рэальнай, бо на некаторых участках у дзень галасавання прадстаўнікі дэмакратычных сіл вялі незалежны падлік выбаршчыкаў, якія прыйшлі на выбарчыя ўчасткі.

Так у дзень галасавання на выбарчым участку №113 прыйшло галасавац 335, а па пратаколу выбарчай камісіі - 1101, №114 - 310 чалавек, па пратаколу - 856, №115 - 248 чалавек, па пратаколу - 658.

Гэтыя дадзеныя спраўджвае дырэктар Магілёўскага праваабарончага цэнтра Уладзімір Краўчанка, дзе сябры яго арганізацыі на трох выбарчых участках вялі незалежны падлік галасоў.

Паводле яго дадзеных на выбарчым участку №24 з улікам датэрміновага галасавання пры колькасці выбаршчыкаў 2923 чалавекі ў галасаванні прыняла ўдзел 523 чалавекі, альбо 18%; участак №25 пры колькасці выбаршчыкаў 2081 чалавек прагаласавала 442, альбо 21%; участак №27 пры колькасці выбаршчыкаў 23631 чалавек прагаласавала 425, альбо 16%.

Усе гэтыя дадзеныя сведчаць пра тое, што яўка ў Магілёве завышана ўсярэднім ў тры разы.

Трэба адмыслова прыпыніцца на выпадку, калі кандыдатка ў дэпутаты Марыя Кульманава паймала за руку члена выбарчай камісіі, якой пры ёй далі два бюлетэні на рукі і папрасілі ўкінуць у вурну для галасавання. Жанчына перахапіла іх і ўбачыла, што за кандыдатаў у гарсавет і аблсавет стаяць птушкі. Кандыдатка ўчыніла скандал, напісала скаргі ў акруговую выбарчую камісію, Магілёўскую абласную выбарчую камісію і Пракуратуру, але старшыня выбарчай камісіі, пад выглядам паглядзець, махлярскім чынам забраў у жанчыны гэтыя бюлетэні.

У момант падліку галасоў выбаршчыкаў з участка для галасавання быў выдалены праваабаронца Аляксей Колчын. Падставай для выдалення стала нежаданне праваабаронцы знаходзіцца на месцы, з якога ён не бачыў, як адбываецца падлік галасоў. Старшыня камісіі аддаў загад супрацоўніку міліцыі выправадзіць яго за межы памяшкання.

Аб тым, што галасы ў часе выбарчай кампаніі не лічыліся сведчыць яшчэ адзін з фактаў. Мужчына, заўважыўшы махінацыі членаў выбарчай камісіі паведаміў пра гэта назіральніку і акрамя гэтага перадаў яму свой невыкарыстаны бюлетэнь для галасавання. Калі ж адбываўся "падлік" галасоў выбршчыкаў, то ніхто з членаў камісіі не заўважыў недахоп аднаго бюлетэня.

## Вынікі

У Магілёве дэмакраты не атрымалі ніводнага дэпутацкага мандата.






# Бліц-онлайн: Прыколы выбарчага марафону

**Сайт zapraudu.info праводзіў online-рэпартаж прыколаў з выбарчага марафону.**

## Поход на выборы - через туман

***Федор Ганчик, 26 апреля, Бобруйск***

**Выполнить свой гражданский долг постояльцам Бобруйского исправительного учреждения открытого типа №53 удалось лишь со второй попытки. Волеизъявляться "химия" ходила за один день дважды. И в первый раз сильно досрочно.**

21 апреля ответственные за выборы сотрудники ИУОТ, чтобы не привлекать лишнего внимания, решили привести своих подопечных на избирательный участок ровно к его открытию, к восьми часам.

С этой целью с утра пораньше сотня "исправляющихся" была выстроена в колонну и нестройно зашагала по направлению к Тепличному. Это окраина Бобруйска на левом берегу Березины, и поэтому здесь случаются туманы. Вот и в это утро туман был довольно плотный. Мужчины, в таком количестве бредущие в густом тумане прямо по дороге, вызывали у бобруйчан, спешащих в ранних маршрутках на работу, разные ассоциации. Колонна военнопленных? Опять фильм о войне снимают? Почему под охраной? Зону куда-то на работу ведут? Однако появляющиеся из тумана были в гражданской одежде и на зэков не походили.

Главный прикол ожидал у дверей избирательного участка. Оказалось, что досрочное голосование начинается не с восьми, а с десяти часов.

Чтобы не пугать местное население, колонну развернули назад, на "химию".

Поход на избирательный участок повторился через два часа. К тому времени туман уже рассеялся, и из проезжающих мимо машин снимали невиданное зрелище на мобильные телефоны.

Даже замполит, довольный удачным завершением и 100-процентной явкой, сделал пару эксклюзивных кадров на мобильник из окна своего автомобиля.



**«Зеленый змий» пробрался в детский сад-ясли № 41 г. Бреста, и дорогу ему открыл указатель «Избирательный участок №78».**




## За прыгожага сыночка галасую два разочкі

***Ганна Ягорава, кандыдат на дэпутаты па Жудроўскай выбарчай акрузе №35:***

**Вяселыя, нават анекдатычныя гісторыі адбываліся напрацягу ўсяго дня галасавання 25 красавіка на сталічнай Жудроўскай выбарчай акрузе № 35.**

Калі даверaная асоба кандыдата ад АГП разам з сябрамі камісіі абыходзілі дамы тых, хто пажадаў прагаласаваць на даму, у адной з кватэр ветлівая бабулька хуценька прагаласавала за самага, на яе погляд, сур'езнага кандыдата, а пасля збегала ў суседні пакой і вярнулася з фотаздымкам.

- Гэта ж мой любы сыночак! - пачала ўгаворы старая, - Глядзіце, які прыгожы і прыстойны. Справа ў тым, што ён апошнія некалькі год не жыве ў Беларусі, але вельмі хоча таксама прагаласаваць на мясцовых выбарах. Дайце я яшчэ раз замест свайго сыночка прагаласую!

Сябры камісіі, ні хвіліны не вагаючыся, выдалі бабулі бюлетэнь, не звяртаючы аніякай увагі на пратэсты даверанай асобы незалежнага кандыдата. Логіку прадстаўнікоў камісіі вельмі проста зразумець: факт падвойнага галасавання адной асобы - гэта нішто ў параўнанні з колькасцю бюлетэняў, роўнымі стопачкамі ўкінутых за кандытата ад улады падчас датэрміновага галасавання, каб забяспечыць рэкордныя паказчыкі ў лепшых традыцыях сацыялістычных спаборніцтваў.

## Почему голосует Михаил Николаевич?

**Надежда Громова, 25 апреля, Гродно**

**Бреясь старенькой электробритвой, мужчина поглядывал в зеркальце, которое стояло на полочке в ванной, и что-то напевал себе под нос. Я часто захожу в гости в эту семью, когда приезжаю к своим родителям. Здесь живёт моя подруга, с которой мы когда-то играли во дворе.**

- Михаил Николаевич, собираетесь куда?

- Так ведь выборы. Пойду голосовать, - гордо ответил мой сосед.

Для меня выборы давно перестали играть какую-то важную политическую, и вообще какую-либо иную, роль. А для кого-то выборы - по-прежнему "святое из святых", с чем связываются надежды на лучшее. Интересно, откуда у моего соседа такая преданность государству? И почему он до сих пор, несмотря ни на что, верит в какое-то чудо?

В небольшой двухкомнатной квартире чешской планировки Михаил Николаевич живёт с супругой и двумя дочками. У каждой дочки есть свои дочки. У старшей - одна. У младшей - две. Мужей нет. Так вот и разделяют 56 квадратных метров 7 человек.

Работу дядя Миша потерял 7 лет назад. Работал водителем. Случился инфаркт. Начальство не продлило контракт. Так и остался без работы с пенсией в 270 тысяч. Его жена, Мария Михайловна, работала на молочном комбинате. А потом ослепла на один глаз. Естественно, нанимателю она больше не была нужна. Как, впрочем, и другим работодателям. Семья осталась без работы. Их ежемесячный доход составил чуть больше 500 тысяч.

По утрам я часто слышала звон пустых бутылок. Это дядя Миша собирал их у себя в кладовке, которая расположена на лестничной площадке, и когда собиралось нужное количество, нес в магазин. Покупал кильку, хлеб.

Судьбе дочек тоже не позавидуешь. Младшая недавно похоронила мужа. На иждивении остались две девчонки школьницы. Старшая замужем так и не была. Получила травму на работе. Сейчас инвалид. Работает вахтёром за 300 тысяч. Растит дочку-пятиклассницу.

- ... Вот с одним кандидатом я уже знаком, - оторвал меня от раздумий Михаил Николаевич. - Листовку нам в ящик бросали. Микулко неки. Сирота, всего сам добивался. Так за него и голосовать, наверное, буду... шкада хлопца.

- А ещё знаете кого? - мне уже стало интересно.

- Откуда там, доченька... вот что кинули в ящик, то я и прочитал... пойду, мо в школе (место избирательного участка - прим. авт.) что узнаю...

- А, может, ну его, эти выборы, дядь Миша? Какой смысл в них?

- Так ведь арестуют...

В это время дядя Миша закончил бриться. И пошёл к себе в комнату. Через некоторое время он вышел приодетый по-праздничному, весь сияющий и явно вдохновленный значимостью момента.

Я смотрела через окно вслед уходящему соседу. Маленькому, худенькому старичку в куртке не своего размера. И опять задавала себе вопрос: так что же это - вера в государство? Преданность? Или просто страх?

**Наш Магілёў**

**Незалежнае грамадска - палітычнае выданне Горада**
**Выдавец Андрусь Волкаў, дырэктар Вітольд Няўрыда.**
**Надрукавана на ксераксе ў горадзе Магілёве. Наклад: 299 ас.**
**e-mail: mahilou@tut.by**

Тыражаванне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца. Распаўсюд бясплатны.